

# БЕЛАЧКА

Л. Дыла

ЮНДЗЕТСЕКТАР ДВБ
МЕНСК 1935

А. ДЫЛА

# БЕЛАЧКА

ДЗЯРЖАУНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — ЮНДЗЕТСЕКТАР — 1935



# БЕЛАЧКА

У густым зялёным лесе нарадзілася белачка. Прыгожы рыжанькі клубочак з доўгім пушыстым хвосцікам і чорнымі, нібы бусінкі, вочкамі. Першыя дні белачка толькі ела ды спала, потым пачала выглядаць з гнязда сваімі жвавымі вочкамі. Зірне, што робіцца вакол, ды схаваецца.

Праз некаторы час яна пачала прабаваць свае сілы: ціханька, асцярожна ўзлезе на бліжэйшую галінку, мільгане рыжым хвосцікам, ды юрк у гняздо. Гэтак праходзілі першыя дні жыцця нашай белачкі.

* * *

Свеціць сонейка, спяваюць птушкі, гамоніць лес. Весела і прывольна дзецям у лесе.

— Вадзя, Вадзя, глядзі– жуч ок!

— Дзе, Ліна, дзе?..

— Вось паўзе пад лісток.

— А які-ж прыгожы і які спрытны!

— Не чапай, я знайшла, мой!

І чатыры рукі адначасова працягнvліся да жучка.

Ш-у-р-ш-ш...—зашуршала нешта ўгары і раптам замест жучка перад дзецьмі на траўцы сядзіць рыжанькі звярок і пужліва паглядае на іх. Гэта маленькая спалоханая белачка нечакана звалілася з галінкі.

— Ай, ай! Што гэта?

— Т...с...с, бе-лач-ка...

Працягнула Ліна руку ды назад.

— Баюся, кусаецца!

А Вадзік выцягнуў з кішэні хустачку і, асцярожна накрыўшы белачку, узяў на рукі.

Тук, тук, тук...—стукае сэрца белачкі, боязна ёй.

Тук, тук, тук...—стукае сэрца Вадзі, баіцца ён, каб не ўцякла белачка. Прыціснуў Вадзік моцна белачку да грудзей ды бягом дадому.

* * *

Першы дзень белачка, забіўшыся ў куточак, пужліва пазірала вакол, не ела, не піла. На другі дзень пачала бегаць па комнаце і да ўсяго прыглядацца, а праз тыдзень і пазнаць яе нельга было,—зусім свойскай зрабілася. Гуляла з дзецьмі, ела з рук, пасябравалася з кошкай Муркай і толькі доўга баялася велізарнага сабакі, якога клікалі Босы. А Босы нават і ўвагі на яе не звяртаў, ляжыць сабе на падлозе ды хвастом мух адганяе.

— А як мы будзем зваць нашу белачку?—запыталася Ліна.

— Рыжык, а можа Пушынка, бо яна ўся мяккая, нібы пух,—адказаў Вадзік.

— Пушынка, Пушынка,—вось добра ты надумаў!

З гэтага часу белачку пачалі зваць Пушынкай. Пушынка вельмі любіла забаўляцца з кошкай Муркай. Аднаго разу ўбачыла яна на шафе Мурку і таксама туды скокнула ды пачала каля яе круціцца. Мурка выгнула спіну і задаволена замурлыкала: курлы-мурлы, курлы-мурлы.

Раптам Мурцы здалося: што недзе ў кутку мыш скрабецца: натапырыла яна вушы і скокнула ўніз. Белка за ёй, ды звалілася на спіну Босаму. Босы ўскочыў, забрахаў: гаў... гаў... гаў... Прыбеглі дзеці, бачаць—Босы лётае па комнаце і брэша, а белачка, распусціўшы свой рыжы пушысты хвост, сядзіць у яго на спіне і не варушыцца.

— Ха-ха-ха!—смяяліся дзеці,—вось дык Пушынка! Асядлала Босага, ды катаецца сабе. Супакоілі дзеці сабаку і знялі белачку.

* * *

— Дзеці, абедаць!—кліча мама, а белачка, як пачуе грукат талерак, дык зараз ужо тут, сядзе на рагу стала і чакае сваёй

порцыі. Ела яна булку, сухарыкі, малако і вельмі любіла салодкае: цукар, цукеркі. Сладкаежжка была белачка. Зварыла мама варэнне з малін, парэчак, суніц, зверху абгарнула паперай, абвязала нітачкай ды схавала ў шафу. Дзверцы шафы былі зачынены няшчыльна. Падбегла белачка, адчыніла лапкай дзверцы і юркнула ў шафу. Вадзя з Лінаю глядзелі, што будзе рабіць белачка. Яна абнюхала ўсе слоікі, знайшла слоік, у якім было варэнне з суніц, разадрала лапкай паперу і пачала ласавацца. Суне лапку ў слоік, выцягне, абліжа ды зноў у слоік.

— Пш, пш... пайшла адсюль!—адганялі дзеці белачку, але ёй варэнне вельмі спадабалася і прышлося адцягваць яе ад слоіка.

— Вадзік,—кажа Ліна,—вось добра, што мама гэтага не бачыла, яна напэўна выкінула-б нашу Пушыначку.

— Вядома, выкінула-б, а мне было-б яе надта шкода.

Абгарнулі дзеці слоік чыстай паперай, каб і следу не было, што нехта туды лазіў. На другі дзень бачаць дзеці, што ў сунічным варэнні зноў дзірка.

— Вадзік, чаму гэта яна толькі суніцы есць?

— Ведаеш што, Ліна, паставім суніцы ў другое месца, вось тут у кутку, а сюды маліны.

Паставілі і пачалі здалёк сачыць, што будзе рабіць белачка. Падбегла Пушынка да слоікаў, зноў абнюхала адзін, другі ды



ў куток, да суніц. Выцягнулі дзеці белачку з шафы і пацікавіліся, ці будзе яна есці якое-небудзь іншае варэнне. Паклалі на сподачак варэння з малін і далі белачцы. Пушынка панюхала і не захацела есці,— любіла яна варэнне толькі з суніц ды з чарніц. Прышлося сказаць маме, каб шафу зачыняла шчыльней.

Аднойчы, у поўдзень, сцямнела, хмары пакрылі ўсё неба, блiснула маланка, загрымеў гром, белачка занепакоілася і раптам згінула.

— Вадзік, дзе Пушынка?

— Не ведаю, не бачыў.

Шукалі, шукалі,—няма нідзе. Знікла белачка.

— Уцякла, мабыць, у лес.

Увесь дзень, нават у час абеда і вячэры белачкі не было. Сумныя клаліся дзеці спаць.

— У-у-у!..—плача Ліна.—Дзе мая Пушыначка?

І нечакана з-пад падушкі выглядае рыжанькая мордачка і весела паглядае на дзяцей.

Увесь час навальніцы спалоханая белачка хавалася пад падушкай.

— У, нягодная, як ты нас напалохала!— смяецца праз слёзы Ліна.

— Наша Пушыначка самая лепшая на свеце!—дадае Вадзік.

У канцы лета белачка пачала знікаць з дому. Вылезе праз фортку ды ўсю ноч гуляе, а раніцою вяртаецца. Калі фортка зачыненая, дык стукае лапкай у шкло, як быццам гаворыць:

— Пусціце і я хачу снедаць!

Пад восень яе пагулянкі пачалі рабіцца даўжэйшымі—па два, па тры дні не з'яўлялася белачка дадому, а адзін раз нават і тыдзень яе не было.

Засумавалі дзеці.

— Уцякла Пушынка ад нас.

— А можа яе паляўнічы забіў?

— Вернецца, вернецца,—супакойвала дзяцей мама. І сапраўды на гэты раз белачка яшчэ вярнулася.

Гулялі дзеці на двары ў мячык. Нечакана Вадзік закінуў мячык на страху, а пад страхою вісела рэшата з чарніцамі, якія мама на сонейку сушыла на зіму. Паглядзеў Вадзік угару, бачыць—рэшата калышацца.

— Э-э!—думае хлопчык.—Гэта я мусіць мячыкам яго зачапіў. Вось добра, што ягады

не рассыпаліся, а то мама дужа на мяне зазлавала-б.

Глядзіць, а рэшата ўсё калышыцца ды калышыцца. Раптам бачыць Вадзік—мільгануў у рэшаце рыжы хвосцік.

— Ліна, Ліна! Пушынка ў рэшаце!

— Лаві яе хутчэй, каб не ўцякла!

Прынеслі дзеці стол, паставілі пад страху, а на стол табурэцік. Лезе Вадзік, а белка пазірае на яго з рэшата ды есць сабе чарніцы.

— Іш ты,—смяецца Вадзік, працягваючы руку да белкі, а белка Вадзіка за руку—цап.

— Ай,—закрычаў Вадзік, але белку з рук не выпусціў і прынёс дамоў.

Рады былі дзеці, што знайшлася іхняя Пушыначка. Ліна нават стужачку ружовую ёй на шыю надзела.

— Глядзі, Вадзік, якая яна прыгожанькая!

— Але, прыгожая... злюка нягодная,—дадае пакрыўджаны хлопчык.

У пачатку верасня белачка зусім знікла з дому. Шкада было яе дзецям, але яны разумелі, што ў лесе ёй жыць лепш і прывальней як з імі. Гуляючы па лесу, дзеці прыглядаліся ці дзе ўбачаць сваю белачку, але доўгі час яе не бачылі. Аднаго разу,

збіраючы грыбы, дзеці пачулі, што брэша Босы: гаў... гаў... гаў... гаў... гаў... А сабакі, калі бачаць белку, дык нейкім асабліва цененькім голасам брэшуць.

— Можа гэта наша белачка?

Хуценька дзеці пабеглі ў той бок, дзе брахаў Босы.

Сапраўды, нізка на галінцы сядзела белачка з ружовай стужачкай на шыі і не ўцякала ад Босага.

— Наша, наша! — радасна закрычалі дзеці.

— Босы, супакойся!

— Пушыначка, на цукерку!

— Вадзік, бяры яе хутчэй.

А белачка ўзлезла вышэй, потым яшчэ вышэй, пераскочыла на суседняе дрэва, махнула апошні раз рыжым хвосцікам і знікла ў гушчары лесу.

— Вадзік, глядзі, грыбы на дрэве! — здзіўлена закрычала Ліна.



Паглядзеў Вадзік і ўбачыў, што на галінках былі панатырканы грыбкі, ужо трохі падсушаныя.

— А я ведаю, хто гэта іх сушыць.

— Хто?

— Наша Пушынка.—Белкі заўжды сабе запасы на зіму рыхтуюць, ды ў дупло складаюць. Сушаць яны не толькі грыбы, але



яшчэ і арэхі збіраюць, і шышкі. Таксама і ягады сушаць, чарніцы і суніцы.

— І ўсё гэта ў дупло складаюць?—пыталася Ліна.

— Так, у дупло складаюць і высцілаюць

яго мохам і галінкамі, каб цёпла і ўлежна было ўзімку.

Доўга глядзелі дзеці ўслед белачцы. Чакалі яны можа белачка яшчэ вернецца, але яна знікла ад іх назаўсёды.

Рэдактар С. *Давідовіч*
Карэктар Г. *Нейфах*

Вокладка В. *Ціхановіча*
Тэхрэдактар Х. *Абрамава*

Здана ў друкарню 29/XI—34 г. Падпісана да друку 21/I—35г. Аб'ём $1^{1}/_{4}$ друк. арк. Папера 72×87 пісчая. Знакаў у друк. арк. 21720. Тыраж 5.000 экз. Уп. Галоўлітбела №а-1439. Заказ друк. № 1349.

Друкарня ім. Сталіна. Менск. Энгельса, 2.



*НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ*

ЦАНА 40 кап.

А. Дыло

БЕЛОЧКА

Государственное
Издательство
Белоруссии

Минск—1935